# Ніва

БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 14 (788) ГОД XVI БЕЛАСТОК 4 КРАСАВІКА 1971 г. ЦАНА 60 гр.

Беларуская песня 1971

## ДАРОГА ВЯДЗЕ ПРАЗ ПЯНЬКІ, ПРАЗ ГРЭДАЛІ

Прайшоў другі конкурс «Беларуская песня — 1971». Быў лепшы, чым першы, што не здзіўляе, бо кожны наступны лепшым быць павінен. Пытанне толькі, ці кожны наступны павінен быць трошкі лепшы ад папярэдняга, ці на многа лепшы. Другі конкурс быў трохі лепшы ад першага. Ізноў выявілася многа выпадковага і ў падборцы песень, і сярод выканаўцаў. Ізноў арганізацыйна быў недапрацаваны, несістэматызаваны.

Няхай выбачаць усе мне маю прыдзірлівасць, але бадай добрая з'ява — быць незадаволеным да канца. Здаецца мне, сябры актывісты БГКТ, дзеячы культуры, удзельнікі конкурсу і ўсе прыхільнікі песні беларускай, што ўсе мы забыліся крыху пра рэч найважнейшую: пра тое, што героем конкурсаў «Беларуская песня адпаведнага года» з'яўляецца якраз п е с н я, а не выканаўца. Песня — добрая, прыгожая, разумная, і найважнейшае, каб песня народная, каб песня фальклорная (не важна, у якім рытме будзе выконвацца, няхай нават у біг-бітовым).

Песень народных маем колькі хочаш, і конкурс павінен іх выцягваць і прапагандаваць. Песнямі народнымі поўны вёскі, і вялікай заслугай конкурсу будзе, калі ён гэты песенны багаты багаж збярэ — багаж беластоцкай рэгіянальнай фальклорнай песні.

У сувязі з тым, што ў конкурсе «Беларуская песня» — найважнейшая песня, стаўлю пад развагу падзел і ўзнагароджванне: асобна салісты, асобна дуэты, асобна калектывы. У такім падзеле затрачваецца іменна песня. Цяжка ў такім падзеле раўняць фальклорную песню Марыі Амельянюк з Грэдалёў з агульнавядомай «Янка стаіць на гары». Гэта невымерныя рэчы і непараўнальныя песні, хоць абедзьве народныя. Адна і другая спяваліся сола і гэтым самым былі ўкінуты ў адну катэгорыю.

Гавару на аснове другога конкурсу, што натуральны падзел ідзе якраз паміж рэгіянальнай, фальклорнай — і песняй, музычна апрацаванай. Я, зразумела, больш за першую катэгорыю песень, за іх як найбольшы ўдзел у конкурсе. І за іх асобнае ўзнагароджванне.

Другі конкурс выявіў большы ўдзел фальклорнай рэгіянальнай песні, чым першы. Такія песні спявала Надзея Ярмоліч з Пянькоў, Люба Лукашэвіч з Пянькоў, Марыя Амельянюк з Грэдалёў, Кастусь Малішэўскі з Сухініч, у

Працяг на стар. 4




*Цэнтральны агляд па ліку ўдзельнікаў і песень быў вялікім: 10 салістаў, 12 дуэтаў, 5 малых вакальных калектываў. Усе спявалі па дзве песні, згодна з правіламі конкурсу. Значыць, разам пачулі мы 54 песні, з якіх, трэба шчыра сказаць, паўтараліся нямногія. На сцэне ўтульнай кавярні прафсаюзаў выступіла больш як 50 асоб з усіх аддзелаў БГКТ.*

*НА ЗДЫМКУ: пераможца сярод салістаў Вера Фірсюк з Чыжоў, Гайнаўскага павета, 18 год, спявала «Польку Янку» і «Колькі ў небе звёзд».*



*Публіка была ўважлівая і разважлівая. Сабралася многа знаўцаў і любіцеляў песні.*

## Пераможцы і ўзнагароды другога конкурсу „Беларуская песня-71"

Узнагароды прызначылі: ГП БГКТ, аддзел культуры Прэз. ВРН у Беластоку, Ваяводскае праўленне ЗМВ у Беластоку, Ваяводскае праўленне «Рух» у Беластоку, ВЗГС у Беластоку, «Ніва» — узнагарода спецыяльная.

Салісты:

У катэгорыі салістаў не было першай узнагароды. Былі прызнаны дзве другія:

Вера Фірсюк, Чыжы, Гайнаўскі павет;

Мікалай Мацеюк, Варшава.

Трэцяя: Ніна Мушынская;

Узнагарода «Нівы»: Н. Ярмоліч.

Тры выружненні: Марыя Амельянюк, Грэдалі, Бельскі павет; Марыя Рэкун, Беласток; Ніна Стрэльчук, Вілянова, Сямяціцкі павет.

Дуэты:

I — Галена Кот — Ірэна Паўлючук, Гарадок;

II — Вера Манцюк — Марыя Манцюк (сёстры), Мікулічы, Сямяціцкі павет;

III — Зофія Пашкоўская — Ірэна Кардаш, Гарадок.

Два выружненні: Ольга Самоцік — Людміла Рыбак, Бельск; Надзея Раманюк — Аляксандра Фірсюк, Гайнаўка.

Калектывы:

I — Гарадок — актэт,

II — Беласток — квартэт,

III — Мікулічы — трыё. (вл)

УРАЖАННІ ЎДЗЕЛЬНІКА X СЕСІІ ВРН




Гэты заклік стаўся цяпер лозунгам практычнага дзеяння ўсіх працоўных нашай краіны.

Прагучаў ён таксама на апошняй сесіі ВРН у Беластоку, якая адбылася 11 сакавіка г.г. Прагучаў не святочна, не пустаслоўна — хаця атмасфера, у якой раіліся радныя, была не зусім звычайнай. Упершыню сабраліся яны ў толькі што пабудаванай, багата і прыгожа абсталяванай канферэнцыйнай зале Ваяводскай рады, была гэта іх X, значыць, юбілейная сесія, прымалі ў ёй удзел прадстаўнікі Савета Дзяржавы і Савета Міністраў ПНР.

Новым вонкавым абставінам спадарожнічаў новы дух працы. Нават у найбольш крытычных галасах адчувалася турбота за тое, каб «дапамагчы», каб гаспадарку ваяводства накіраваць на шлях пастаяннага, прагрэсіўнага развіцця.

Асноўным пунктам парадку дня сесіі было абмеркаванне і прыняццё «ПРАГРАМЫ АЖЫЦЦЯЎЛЕННЯ ПАСТАНОЎ VIII ПЛЕНУМА ЦЭНТРАЛЬНАГА КАМІТЭТА ПОЛЬСКАЙ АБ'ЯДНАНАЙ РАБОЧАЙ ПАРТЫІ».

Праект гэтай «Праграмы» радныя атрымалі загадзя. І тут таксама праявіўся новы, болей жыццёвы падыход да справы. Раней падобныя праекты складаліся ў форме шматстаронкавых дакладаў, нафаршыраваных, як мяса перцам, дзесяткамі лікаў на кожнай старонцы. Нямала трэба было наламаць сабе галаву, каб разабрацца ў гэтым гушчары сухіх паказчыкаў, якія больш закрывалі, чымсьці паказвалі.

На гэты раз праект коратка і ясна акрэсліваў заданні, спосаб іх выканання, хто мае іх выконваць і дакладны тэрмін выканання. Для прыкладу: у рубрыцы *«Тэма, заданні і спосаб выканання»* знаходзім:

*«У галіне сельскай гаспадаркі і скупкі правесці дадатковы аналіз прычын, якія прытармазілі скупку і кантрактацыю свіней.*

*Прыняць рашучыя меры, каб сяляне больш кантрактавалі ячменю, гароху і фасолі».*

Побач у рубрыцы *«Выканаўца»* сказана, што гэтыя заданні маюць выканаць: *аддзел скупкі Прэзідыума ВРН, аддзелы сельскай гаспадаркі і лясніцтва прэзідыумаў павятовых радаў і прэзідыумы гэтых радаў.* Ды выканаць гэта не абы калі, а *найдалей да 30 красавіка 1971 года.*

*І так акрэслены ўсе іншыя заданні праграмы. Напрыклад: «Падрыхтаваць адпаведна абгрунтаваныя прапановы ў адрас цэнтральных улад па справе пашырэння ў ваяводстве прамысловых і насененосных сельскагаспадарчых культур».*

Выканаўца: *аддзел сельскай гаспадаркі і лясніцтва Прэзідыума ВРН.*

Працяг на стар. 4

**НОВАЯ АПОВЕСЦЬ З БІБЛІЯТЭЧКІ «НІВЫ»**

## ПРАКЛЯТАЯ ВЫШЫНЯ

**Неўзабаве пачнем друкаваць новую аповесць з серыі «Бібліятэчка «Нівы». Будзе гэта знакамітая аповесць аб суровых буднях вайны вядомага беларускага празаіка Васіля Быкава «Праклятая вышыня».**

# ◊ Падзеі ◊ Здарэнні ◊ Факты ◊ Каментарыі ◊ Весткі



## СВЕТ

### З'ЕЗД РЭАЛЬНЫХ НАДЗЕЙ

30 сакавіка г.г. распачаў працу XXIV з'езд Камуністычнай партыі Савецкага Саюза.

Перадз'ездаўская кампанія характарызавалася вялікай актыўнасцю камуністаў. Аб гэтым сведчыць факт, што ў спрэчках толькі ў пярвічных арганізацыях выступіла 3 мільёны чалавек, г.зн. кожны чацвёрты прысутны на сходзе. Зараз КПСС налічвае 14 мільёнаў членаў і кандыдатаў, а палова з іх — гэта рабочыя і калгаснікі.

Дэлегатаў на з'езд выбіралі на з'ездах партыі паасобных саюзных рэспублік, за выключэннем Украіны, Беларусі, Узбекістана і Казахстана, дзе выбіраліся дэлегаты непасрэдна на абласных справаздаўча-выбарчых канферэнцыях. Адзін дэлегат з рашаючым голасам прадстаўляе 2900 членаў партыі і адзін дэлегат з дарадчым голасам прыпадае на кожныя 2900 кандыдатаў.

Праект Дырэктыў XXIV з'езда КПСС па новаму пяцігадоваму плану развіцця народнай гаспадаркі раскрывае перад савецкімі людзьмі шырокія перспектывы. Многа месца як у праекце Дырэктыў, так і ў дыскусіі займаюць справы сельскай гаспадаркі. Праект плана прадбачвае хуткае павялічэнне прадукцыйнасці сельскай гаспадаркі. Гаворыцца тут, што гадавыя размеры прадукцыі сельскагаспадарчых тавараў у параўнанні з папярэдняй пяцігодкай у сярэднім павялічацца на 20—22 працэнты.

Асновай выканання гэтага задання мае быць умацаванне матэрыяльна-тэхнічнай базы сельскай гаспадаркі, інтэнсіфікацыя яе дзякуючы прымяненню мінеральных угнаенняў, механізацыі і г.д. Адначасова падкрэсліваецца, што ў дзевятай пяцігодцы прадукцыя збожжа надалей застанецца найважнейшай праблемай сельскай гаспадаркі. Праект Дырэктываў прадбачвае, што кожны год збярэцца ў сярэднім не менш 195 мільёнаў тон збожжа. Гэта абазначае, што ўраджай з аднаго гектара павінен павялічыцца на 4—5 цэнтнераў. Трэба напомніць, што ў адрозненні ад мінулых гадоў, плошча пасеваў не павялічыцца.

У гадах 1971—1975 з фонду дзяржавы прызначаецца для вёскі 82 мільярды рублёў на інвестыцыі, а калгасы плануюць на гэта 43 мільярды рублёў. Праект плана прадугледжвае, што савецкая вёска ў два разы больш будзе карыстацца электрычнай энергіяй, а гэта ж на многа аблегчыць працу хлебаробаў.

Згодна з праектам Дырэктыў, прамысловасць павінна паставіць калгасам і саўгасам у цякучай пяцігодцы 1.700 тысяч трактараў, 1.100 тысяч грузавікоў, 1.500 тысяч трактарных прычэпаў і 230 тысяч сіласакамбайнаў.

XXIV з'езд КПСС выклікаў шырокае зацікаўленне на цэлым свеце, а вынікае гэта са значэння, ролі і ўплыву Савецкага Саюза ў сучасным свеце. Зразумела, новы змест праекта Дырэктыў, якія ставяць, упершыню, хутчэйшы ўзрост спажывецкіх сродкаў, чым сродкаў прадукцыі, або 30-працэнтнае павялічэнне зарабатнай платы, не магло не выклікаць захаплення. (ак)



## БССР

### САВЕТЫ

Працоўныя Савецкай Беларусі рыхтуюцца да выбараў у Вярхоўны Савет БССР і ў мясцовыя Саветы дэпутатаў працоўных. Адным з першых у дыскусіі аб дзейнасці савецкіх органаў улады ўзяў слова старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета Беларускай ССР С. Прытыцкі. На старонках газеты «Звязда» ад 24 сакавіка г.г. ён выступіў з абшырным артыкулам, у якім крытычна разглядае формы і метады працы Саветаў усіх узроўняў, іх поспехі і памылкі. Як вынікае з яго артыкула, зараз у БССР працуе 1887 Саветаў. «Партыйнымі і савецкімі органамі рэспублікі, — піша старшыня, — праведзена вялікая работа па ўмацаванню выканаўчых камітэтаў мясцовых Саветаў больш вопытнымі і падрыхтаванымі кадрамі. Іх якасны састаў значна палепшыўся. Цяпер 95,5 працэнта старшынь, 91,1 прац. намеснікаў старшынь і 94,5 прац. сакратароў выканаўчых камітэтаў маюць вышэйшую і сярэднюю адукацыю».

Адначасова ў рэспубліцы пачалося вылучэнне кандыдатаў у састаў Цэнтральнай выбарчай камісіі па выбарах у Вярхоўны Савет БССР. Гэтымі кандыдатамі з'яўляюцца прадстаўнікі прафсаюзных і маладзёжных арганізацый, перадавыя рабочыя і калгаснікі. Для прыкладу: калектыў Мінскага аўтамабільнага завода вылучыў у кандыдаты рабочага В. І. Бароўскага, калгаснікаў калгаса імя Фрунзе Шклоўскага раёна будзе прадстаўляць Т. Залуцкая.

### КАЛГАС ІМЯ ЛЕНІНА...

...які знаходзіцца ў Шчучынскім раёне, належыць да ліку перадавых. Летась на палях гаспадаркі сабрана ў сярэднім аж па 30,5 цэнтнера збожжавых з гектара, а надоі малака былі таксама высокія. Гэтым калгасам ужо 15 год кіруе Уладзімір Мядзведзеў, які з'яўляецца дэпутатам Вярхоўнага Савета БССР. За высокія дасягненні ў калгаснай гаспадарцы камуністы Гродзенскай вобласці аказалі яму вялікае давер'е — выбралі яго дэлегатам XXIV З'езда КПСС.

### ВЫСОКАЯ ЎЗНАГАРОДА

Таксама праславіўся ў рэспубліцы калгас «Прагрэс» Гродзенскага раёна. Дае ён у год 15 чыгуначных эшалонаў рознай прадукцыі. За высокія поспехі, дасягнутыя ў развіцці сельскагаспадарчай вытворчасці, за выкананне пяцігадовага плана продажу дзяржаве прадуктаў земляробства і жывёлагадоўлі калгас «Прагрэс» узнагароджаны ордэнам Леніна. З гэтай нагоды 23 сакавіка г.г. у гаспадарцы адбыўся ўрачысты сход, у якім прыняў удзел сакратар Цэнтральнага Камітэта КПБ У. Ф. Міцкевіч. Ён павіншаваў калгаснікаў з высокай урадавай узнагародай і жадаў ім далейшых поспехаў. Старшыня калгаса «Прагрэс», Ф. П. Сянько, дзякуючы за ўзнагароду, адзначыў, што іх гаспадарка ў гэтым годзе намерана сабраць з гектара па 37—40 цэнтнераў збожжавых, 400 цэнтнераў цукровых буракоў і 200 цэнтнераў бульбы. (вр)

## ПОЛЬШЧА

### З ПРАЦЫ ПАЛІТБЮРО

На пасяджэнні Палітычнага Бюро і Прэзідыума ўрада, якое адбылося 23 сакавіка, былі разгледжаны асноўныя праблемы развіцця машынабудаўнічай прамысловасці ў гадах 1971—1975. Акцэптуючы галоўныя напрамкі развіцця машынабудаўнічай прамысловасці, на пасяджэнні былі дадзены ўраду ўказанні наконт падрыхтоўкі падрабязнай праграмы развіцця цэлай галіны прамысловасці.

Апрача таго, былі разгледжаны прапановы ў справе ўдасканальвання сістэмы павышэння кваліфікацый кіраўнічых кадраў у галіне арганізацыі і кіравання, а таксама ў справе паляпшэння грамадска-палітычнай і гаспадарчай інфармацыі для кіраўніцтва партыі.

### ВЫКАНАННЕ ЗАДАННЯЎ

25 сакавіка адбылося пасяджэнне Рады Міністраў, на якім было ацэнена выкананне планавых гаспадарчых заданняў. На пасяджэнні быў прааналізаваны актуальны стан прамысловай прадукцыі, сітуацыя ў галіне выканання інвестыцыйных заданняў, забеспячэнне ўнутранага рынку прадуктамі харчавання і прамысловымі прадуктамі, падрыхтоўка сельскай гаспадаркі да вясенняй пасяўной кампаніі, выкананне заданняў у галіне замежнага гандлю, выкананне заданняў у галіне транспарту.

### ПРЭС-КАНФЕРЭНЦЫЯ

27 сакавіка ў Бюро Рады Міністраў адбылася першая прэс-канферэнцыя назначанага нядаўна прэсавага прадстаўніка ўрада Уладзіміра Янюрка. Праінфармаваў ён спачатку прысутных аб заданнях прэсавага прадстаўніка, а пасля аб актуальнай гаспадарчай сітуацыі краіны і вынікаючых з яе найважнейшых праблемах. Прэсавага прадстаўніка ўрада назначылі рашэннем Палітбюро партыі з мэтай лепшага інфармавання грамадства.

### АСВЕТА ДАРОСЛЫХ

У Варшаве адбылася нарада кіраўнікоў культурна-асветнага актыву галоўных праўленняў прафсаюзаў, на якім была зроблена крытычная ацэнка датыхчасовай дзейнасці прафсаюзнага руху на ніве развіцця асветы працоўных, пашырэння культуры і выхавання ў асяроддзі працы. Было сцверджана, што прафсаюзы павінны паглыбляць грамадскі кантроль у справах культуры і асветы працоўных, завастраць адказнасць за іх развіццё з боку адміністрацыі і дзяржаўных устаноў.

### КРАДЗЕЖ

На Дзяржаўнай фабрыцы каштоўных папераў, дзе прадукуюцца, між іншым, грошы, украдзена 8 кілаграмаў 500-залатоўкавых банкнотаў серыі BR, на суму 2,5 мільёна злотых. Дзякуючы энергічнай акцыі органаў міліцыі ужо ў некалькі гадзін пасля крадзяжу злодзей быў злоўлены. Праз тры дні міліцыя знайшла амаль усе ўкрадзеныя грошы. Злодзеем аказаўся 19-гадовы рабочы гэтага завода. (п)



## ВАЯВОДСТВА

### ДЗЕНЬ ТЭАТРА

У сувязі з Міжнародным днём тэатра ў мінулую суботу адбылася сустрэча ваяводскіх улад з артыстамі абодвух нашых тэатраў. На сустрэчы прысутнічалі намеснік старшыні Прэзідыума ВРН Р. Лазаровіч, намеснік кіраўніка аддзела прапаганды ВК партыі В. Шпалінскі, кіраўнік аддзела культуры Прэзідыума ВРН З. Дамброўскі.

Р. Лазаровіч сардэчна падзякаваў тэатральным калектывам за добрую працу. Беластоцкія тэатры працуюць у цяжкіх памяшкальных умовах. Нягледзячы на гэта, калектыў тэатра імя А. Вянгеркі сістэматычна працуе на трох сцэнах, а тэатр лялек праславіўся сваёй ініцыятыўнасцю на ўсю краіну. Многія дзеячы тэатра атрымалі ўзнагароды.

### СЯМЯЦІЧЫ — НА I МЕСЦЫ

У мінулую суботу адбылося пасяджэнне прэзідыума ВК Фронту адзінства народа. Падсумоўвалася праца ў леташнім конкурсе на найчысцейшыя, найбольш эстэтычныя і найбольш гаспадарныя горад і вёску на Беласточчыне. Сярод гарадоў — павятовых цэнтраў першае месца заваявалі Сямяцічы. Далейшыя месцы прызнаны Саколцы, Алецку і Аўгустову. У групе іншых гарадоў першынство заваяваў Драгічын, а за ім Ядвабнае і Бранск. Найчысцейшыя вёскі, у якіх знаходзяцца ГРН-ы — Краснапаль (Сэйненскі павет), Мілейчыцы (Сямяціцкі павет) і Бані Мазурскія (Голдапскі павет).

### МОЛАДЗЬ — КРАІНЕ

Саюз сялянскай моладзі, як і ў мінулыя гады, рыхтуецца пачаць сёлетнюю «Вясну чынаў». У рамах гэтай акцыі Ваяводскае праўленне ЗМВ арганізуе пад патранатам Фронту адзінства народа тры конкурсы для вясковай моладзі: «Моладзь Беласточчыны — краіне, грамадству, сабе», конкурс на найлепш абсаджаную дрэвамі вёску і на найлепшае выкананне работы па залясенню. Лесанасаджэнні і пасадка дрэў у вёсках будзе адбывацца пад наглядам аддзелаў лясніцтва і сельскай гаспадаркі ВРН і ПРН. Заяўкі маладзёжных груп аб удзеле ў конкурсе лесанасаджэння трэба пасылаць у аддзелы сельскай гаспадаркі і лясніцтва прэзідыумаў ПРН на сваёй тэрыторыі, а аб удзеле ў конкурсе пры будове і рамонце дарог — у праўленне мясцовых дарог (Zarząd dróg lokalnych). Конкурс «Вясна чынаў» пачынаецца ўжо 1 красавіка.

### ФАБРЫКА ДАМОЎ

У апошні час пашыраны размах у будаўніцтве жылых дамоў, камунальных і спулдзельчых аб'ектаў. Каб заспакоіць патрэбы ў будаўнічых матэрыялах, будуецца ў Беластоку «фабрыка дамоў». Ад студзеня гэтая фабрыка перайшла ў ведамства беластоцкага будаўнічага аб'яднання. Дзякуючы гэтаму ў нашым ваяводстве застанецца ўся прадукцыя фабрыкі. У бліжэйшыя гады фабрыка пачне прадукаваць таксама і малыя, двухсямейныя домікі. (яч)




**Niedziela, 4 kwietnia**

7.40 Program dnia. 7.45 TV Kurs Rolniczy: „Uproszczona uprawa roślin zbożowych i pastewnych". 8.20 „Przypominamy, radzimy". 8.30 „Nowoczesność w domu i zagrodzie". 8.55 Dla młodych widzów: „Azymut 70", „Bella i Sebastian" — film. 10.20 „Lekcja" — rep. z Polskiego Ośrodka Kultury w Budapeszcie. 10.30 „Od kołyski aż po grób" — progr. folklorystyczny węg. 11.00 Sprawozdanie z meczu piłki nożnej o Mistrzostwo I ligi: Gwardia (W-wa) — Pogoń (Szczecin). W przerwie ok. 11.45 Dziennik. 12.55 „Przemiany". 13.15 „Akcja — Stary kalosz" — film TVP („Wakacje z duchami"). 13.50 Dla dzieci: „Co to za cudoki" — widowisko lalkowe. 14.30 „Piosenka dla Ciebie". 15.35 „Piórkiem i węglem". 16.00 „Autor i jego piosenki" — Ernest Bryll. 16.30 „Spotkanie z pisarzem" — Urszula Kozioł. 17.00 „Wielka gra". 18.00 PKF. 18.10 „Opowieść o generale" (Józef Bem). 18.20 „Uciechy, żarty". 19.10 Przemówienie ambasadora Węgierskiej Republiki Ludowej. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Na tropie gangu" — film fab. franc. 21.35 Magazyn sportowy. 22.05 Estrada Literacka: „Prometeusz — poezja nowogrecka.

**Poniedziałek, 5 kwietnia**

15.20 i 22.55 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Fizyka. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Dla dzieci: „Zwierzyniec". 17.25 „Echo stadionu". 18.00 „Spacerkiem po kinach". 18.30 „Budapeszt po wyzwoleniu" — film dok. węg. 18.45 „Eureka". 19.20 Dobranoc. 19.30 Teatr TV: A. Fadiejew — „Paweł — Pawłusza" wg powieści „Klęska". 21.05 „Kultura powiatu czy kultura powiatowa" — dyskusja. 21.35 Koncert Rozrywkowy Tygodnika „Szpilki". 22.35 Dziennik.

**Wtorek, 6 kwietnia**

8.35 „Żywot Mateusza" — film fab. pol. 9.55 Dla szkół: (kl. II lic.) Język polski — C. K. Norwid „Pierścień wielkiej damy". 10.55 Dla szkół: (kl. V—VI) Język polski — „O miejsce wśród ludzi" (Bezinteresowność). 12.45 i 13.55 Przysposobienie Rolnicze: „Zwalczanie chwastów w uprawach polowych". 15.20 i 22.30 Politechnika TV I roku. Matematyka. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Ekran Młodych. 18.30 „Teatry Rzymu" — rep. Tele-Aru. 18.45 „Na radiowej fali" — program ekonom. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.00 „Żywot Mateusza" — film fab. pol. 21.20 „Samotność" — program baletowy. 21.45 „Życie wśród słów" („Profile kultury"). 22.10 Dziennik.

**Środa, 7 kwietnia**

9.00 Dla szkół: (kl. VIII) Historia — „Rok zwycięstwa". 9.55 Dla szkół: (kl. VII) Historia — „Ambasadorowie nauki polskiej". 10.25 „Łabędzi śpiew" — film tv ang. („Saga rodu Forsytów"). 11.55 Dla szkół: (kl. VI) Fizyka — „Sprężone powietrze". 12.45 „Wybieramy zawód". 15.20 i 22.45 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Matematyka. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Dla młodych widzów: „Aula" — sesja XXXII. 17.15 Magazyn ITP. 17.25 „Wieś szuka partnera". 17.55 „Zespół jazzowy Kenny Clarka i Francy Bolanda" — program rozr. belg. 18.30 TV Kurier Warszawski. 18.45 Wszechnica TV: „Sztuka liczenia". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Łabędzi śpiew" — film tv ang. („Saga rodu Forsytów"). 21.00 „Światowid". 21.30 „Od gwiazdy do gwiazdy" — VII program („Alfabet Rozrywki"). 22.15 PKF. 22.25 Dziennik.

**Czwartek, 8 kwietnia**

9.00 „Teleferie". 15.20 i 22.35 Politechnika TV I roku. Fizyka. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Teatr Młodego Widza: A. Korta i T. Nowak — „Gniewko, syn rybaka" cz. I pt. „Zdrada". 17.40 „Poligon". 18.10 TV Kurier Kielecki. 18.25 „Rozmowy o książkach". 18.40 „Polska Pieśń Artystyczna" cz. VI — Mieczysław Karłowicz i Ludomir Różycki. 19.15 „Przypominamy, radzimy". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 Teatr Sensacji: W. Orłowski — „Spektakl w teatrze Forda". 21.15 Recital piosenkarski Andrzeja Dąbrowskiego. 21.45 „Refleksje". 22.15 Dziennik.

**Piątek, 9 kwietnia**

9.00 „Teleferie". 10.15 „Katastrofa" — film fab. węg. 14.50 Fizyka dla nauczycieli: „Elementy fizyki ciała stałego" cz. V. 15.20 i 22.55 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Fizyka. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Teatr Młodego Widza: A. Korta i T. Nowak — „Gniewko, syn rybaka" cz. II pt. „Znak Orła". 17.40 „Nie tylko dla pań". 18.00 Magazyn Postępu Technicznego". 18.30 TV Kurier Mazowiecki. 18.45 „Pierwszy w Kosmosie". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.00 „Misterium męki człowieczej". 20.45 „Kraj" 21.25 Teatr TV: „Przesłuchanie". 22.35 Dziennik.

**Sobota, 10 kwietnia**

9.00 „Teleferie". 10.15 „Siostry Bardelotti" — film fab. wł. 14.10 Program dnia 14.15 Program tygodnia. 14.45 „Oferty". 15.00 Półfinał Pucharu Polski w piłce nożnej: Górnik — Ruch. 16.45 Dziennik. 16.55 Teatr Młodego Widza: A. Korta i T. Nowak — „Gniewko, syn rybaka" cz. III pt. „Spisek". 17.55 „Z kamerą wśród zwierząt". 18.25 „Pegaz". 19.00 „Śpiewa Krystyna Jamroz". 19.20 Dobranoc. 19.30 Monitor. 20.20 „Gwiazdy tamtych dni" — Lucyna Messal. 21.20 Dziennik, Wiadomości sportowe. 21.50 „Siostry Bardelotti" — film fab. wł. 23.25 „Z głębi serca" — śpiewa Nina Simone.




**Piątek, 2 kwietnia**

8.00 Na zjeździe KPZR. 8.30 Koncert. 9.00 Hokej. ZSRR — Czechosłowacja (powtórzenie). 10.45 Efekt Dubnej. 11.15 Nowiny. 15.00 Program dnia. 15.05 Nowiny. 15.15 Dla uczniów. 15.45 Film animowany dla dzieci. 16.00 Kronika zjazdu KPZR. 16.15 Białoruś literacka. 17.00 Panorama nowin. 17.15 Goście zagraniczni zjazdu KPZR. 17.40 Przegląd muzyczny. 18.30 Czas. 19.15 Spektakl TV. 20.45 Wieczór operetki. 21.30 Nowiny.

**Sobota, 3 kwietnia.**

8.00 Na zjeździe KPZR. 8.30 Szkatułka muzyczna. 8.45 Przegląd międzynarodowy. 9.00 Wywiad z dyrektorem fizyczno-technicznego instytutu AN BSRR. 10.00 Sprawozdania obwodowych organizacji komsomolskich. 10.50 Śpiewa Wiktor Kiryczenko. 11.15 Delegacja zjazdu KPZR. 11.30 Koncert. 11.40 Ziemia zwraca swe skarby. 12.00 Film animowany dla dzieci. 12.25 Wiosenne drogi. 12.45 W świecie zwierząt. 13.40 Film fab. 15.15 Filmy animowane. 15.50 Hokej. Czechosłowacja — Finlandia. 17.15 Koncert życzeń. 18.15 Czas. 19.00 Hokej. ZSRR — Szwecja.

**Niedziela, 4 kwietnia**

8.00 Dziś Dzień Geologa. 8.15 Kiosk muzyczny. 8.45 Spotkanie z Bohaterem Związku Radzieckiego A. Maresjewem. 9.30 Bohaterowie i filmy. 10.30 Pisarze delegatom zjazdu. 11.00 Koncert. 12.20 Filmy animowane. 13.00 Koncert orkiestry wojskowej. 13.30 Delegat na zjazd. 14.00 Piłka nożna. „Zara" (Woroszyłowgrad) — CSKA. 15.45 Goście zagraniczni zjazdu KPZR. 16.00 Nowiny. 16.05 Spotkania muzyczne. 16.35 Klub filmowy. 17.30 Film fab. 19.00 Czas. 19.30 Koncert życzeń. 20.15 Transmisja sportowa. 21.15 Nowiny.

# МЕЧ

*Калі ў руках трымаю меч*
*Іржавы і шчарбаты,*
*Які здымаў галовы з плеч —*
*Астаўся экспанатам.*

*Бяжыць за думкай думак рой*
*Трывожных, анямелых.*
*Хачу пазнаць, якой цаной*
*Жыццё канала, тлела.*

*Бо для адных крывавы меч*
*Быў выбухам эйфорыі:*
*Ідзі, палі, сцінай, калеч*
*І высякай да караня.*

*А для другіх — крыві рака*
*Плыла праз пакаленні.*
*Той меч трымаючы ў руках,*
*Не ўпалі на календі.*

*Гляджу — не верыцца вачам,*
*Хоць час вякамі спорыцца,*
*Усё, што гэты меч пачаў,*
*Паспела так паскорыцца.*

*Калі ў руках трымаю меч*
*Іржавы і шчарбаты,*
*Нясецца рэха тых сустрэч —*
*Гук бомб, трэск аўтаматаў.*

*Л. Танкевіч*




# БЕЛАВЕЖА

ОРГАН ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ

№ 148


ДА 100-ГОДДЗЯ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ

# ЛЕСЯ УКРАІНКА



## ● ДА ПРЫРОДЫ ●

Прырода родная! Я на тваім улонні
Дзіцячы сум і радасць вылівала,
Матуляю цябе я шчыра называла,
З удзячнасцю складаючы далоні.

Ты абудзіла ў сэрцы іскру божую, Прырода!
Надзеі песню першую я прысвяціла,
Яна мне свяціць пуцяводнай зоркай мілай,
Людскую дабрату шукаю я заўсёды.

Калі ж адчую, што прамень згасае
Надзеі сонечнай, — тады, Прырода-маці,
Прымі мяне, збалелую, — і ў ціхай земнай хаце
Няхай праменне новае мне зноў заззяе!

*З украінскай мовы пераклала*
*Эдзі Агняцвет*

## ХВІЛІНА СЛАБАСЦІ

*Сівыя валасы*
*ад сораму*
*пачалі выпадаць*
*— хадзілі на спатканне*
*з блазнотай*
*іхняй маладосці надзеі*
*адлогам*
*адлогі вякоўя*
*у маналіт*
*і запальчывых людзей*
*фантазіі рыдлёўкі*
*шапкаю*
*працію марэй*

*Яша Бурш*





## ВЫНІКІ ЛІТАРАТУРНАГА КОНКУРСУ

У лютым адбылося пасяджэнне конкурснага журы, якое падвяло вынікі літаратурнага конкурсу, аб'яўленага ў мінулым годзе ГП БГКТ і прысвечанага 15-годдзю нашага таварыства. Журы Прэзідыума ГП БГКТ вырашыла першую ўзнагароду прызнаць вершу «Таварыства і ты», падпісанаму псеўданімам «Падвойны», другой узнагароды не прызнаваць, трэцюю — прызнаць вершу «Юбілейнае», падпісанаму псеўданімам «А. С.».

Аўтарамі ўзнагароджаных вершаў аказаліся Алесь Барскі (I узнагарода) і Віктар Швед (III узнагарода). Сёння друкуем узнагароджаныя творы.

I УЗНАГАРОДА

## ТАВАРЫСТВА І ТЫ

*Таварыства?*
*Дык гэта ты.*
*Таварыства?*
*Дык гэта мы.*
*Таварыства — як хлеб, раздзелены*
*на часці.*
*Калі ты маеш ў сэрцы лёт,*
*калі ты маеш ў сэрцы сны,*
*прыдзі да нас*
*супольна шукаць шчасця.*
*Пятнаццаць год жыве БГКТ,*
*нібы юнак,*
*але багаты вопыт.*
*Ідзем, ідзем да сёл,*
*ідзем да бацькаўскіх кватэр,*
*каб шчасце паглядзець*
*і зблізка паглядзець на клопат.*
*О родны край,*
*ты цёплы, як далонь*
*рукі спрацованай матчынай,*
*заўсёды сэрца нас вяло,*
*заўсёды пачуцце нясло*
*тваіх сыноў ў шырокія даліны.*

*Пятнаццаць год*
*прайшлі мы па раллі*
*і словы — зерні кідалі у глебу.*
*Цяпер ідзем мы праз палі,*
*цяпер ідзем сярод далін,*
*рукі заняты песняй — хлебам.*
*Прыдзі да нас,*
*стары і малады.*
*Юнак, прыходзь*
*І ты прыходзь, дзяўчына,*
*з БГКТ служыць праз доўгія гады*
*будучыні народнае Айчыны.*
*Таварыства?*
*Дык я і ты.*
*Таварыства?*
*Дык лёт і сны*
*і мы усе, усе супольна.*
*Супольны радасны матыў,*
*той, што ідзе на кліч вясны,*
*песні народнай,*
*песні вольнай.*
*Наш юбілей — наш дружны ход*
*вядзе да сонечных вяршыняў.*
*Мы пражылі пятнаццаць год,*
*а жыць нам трэба сотню год*
*у працы для Айчыны.*

*Алесь Барскі*

III УЗНАГАРОДА

## ЮБІЛЕЙНАЕ

*(да 15-годдзя БГКТ)*

*А хто там ідзе*
*У агромністай такой*
*грамадзе?*
*— Беларусы.*

*Я. Купала*

Мы — згуртаваныя,
Мы — аб'ядналыя
Матчынай моваю
І роднай песняй.
З душой крылатаю
Выйшлі аратыя
На нівы свежыя
Сустрэць прадвесне.

І жменяй поўнаю
На скібы роўныя
З натхненнем сеялі
Шчасця зярняты.
Нівы ўраджайныя
І рукі дбайныя
Штогод прыносілі
Нам плён багаты.

Мы не лапцюжныя
Сям'ёю дружнаю
Ідзём у светлае
Заўтра краіны.
Палякам — роўныя,
Палякам — кроўныя.
Супольны дом наш —
Адна Айчына.

*Віктар Швед*



*Зося Стаськевіч*

## СЛЕДАМ СЭРЦА

Пайду з табой туды,
Дзе п'юць жыццё з крыніц.
У глыбокі лес паклічуць нас зарніцы,
Рассыпле зоры нам да ног сусвет,
Разгоніць вецер хмары, навальніцы.

Пайду з табой туды,
Дзе не відаць маланак,
Дзе громам лёс не стукне з абурэннем,
Дзе шчасцем вечар, дзень, і ноч, і ранак,
Дзе сэрца сэрцу не нясе сумненняў.

Пайду з табой туды,
Дзе колас зліты сонцам,
Дзе поле жарам дыхаць будзе з намі,
І ў мядуніцах, васільках, рамонках,
Паставім шчасце проста перад намі.

І пойдзем следам... Ў бездань густой ночы
За сем лясоў, сем гор і сем мароў...
І пашукаем самы ціхі бераг
Без бур, штурвалаў... Нават без вятроў...

## ТАБЕ



*Дай мне гарачыя рукі*
*Дай мне гарачае сэрца*
*Дай мне усе свае думкі*
*Дай вочы вясны*
*Свет зайграе скерца*
*І паплывуць санаты*
*Серэнады кантылены*
*Канканы інтэрлюдыі*
*кантаты*
*А мы лібрэтта.*
*І прагучыць нарэшце*
*кода*
*Шкода!*



В. Рыбалт нарадзіўся 15. IX. 1909 г. у вёсцы Хілімоны Дуброўскага павета. Да 1950 года працаваў на гаспадарцы. Цяпер працуе рабочым цэнтральнага ацяплення ППРН у Дуброве.

*Вінцук Рыбалт*

## НЕСВЯДОМЫ

Вычытаў Пятрук у газетах пра ракеты і кажа суседу: — Ракеты — гэта вялікае дзіва. Каб я грошы меў, купіў бы білет і паляцеў бы ў неба проста святым у рукі, як даўней лётаў святы Ілья.

— Не, браток, — гаворыць сусед. — Цяпер да неба цяжка даляцець: высока вісіць. Ды і небам яно таму называецца, што ніхто там не быў.

— Калі так туды дабіцца цяжка, — кажа Пятрук, — дык няхай неба будзе без мяне.

## БЫВАЕ, ШТО І З БЯДЫ СПЯВАЕ

Каб мне пазычку, хоць невялічку, купіў бы сабе каня, карову і хату гатову. Быў бы багаты, паехаў бы да багатай у сваты...

Але беднаму бяда — паручыцеляў няма: Не станеш на ногі, не купіш каня, каровы. Як жыць?

Аддаў свой загон брату і падаўся ў горад. Пачаў працаваць, дабро нажываць. Ад дзяўчат не абараніцца, не ведаеш з якою жаніцца.

Урэшце выбраў дзяўчыну вучоную, пекную і маладую. Ажаніўся на ёй. Яна будзе працаваць у бюры, буду сапраўды багаты: дзве пенсіі ў хаце!

Вяселле зрабілі, усіх запрасілі. Аж тут дзіва: маладая сына нарадзіла!

Не па-людску, выходзіць. Як быць? Бывае, што з бяды заспяваеш.



## НЕ ЗАБЫВАЮЦЬ

Сустрэліся Піліп з Якубам, рады пагутарыць. Піліп пытае: — Ну, як, браток, ты цяпер жывеш? Дзеткі як твае? Колькі іх пры табе?

— Дзякую, добра, — адказвае Якуб. — Лепш не можа быць. Усіх было чацвёра. І вывучыў усіх. Жывуць у горадзе, як міністры. Работу ўсю аддалі мне. Так мне добра, што не забываюць. Штотыдня не той, дык другі пісьмо прышле. І пішуць аднолькава: тата, тата, прышлі нам яды, масла ці мяса, хоць кілаграмаў пяць. А якія разумныя! Пішуць, каб усё было свежае і чыстае, бо не возьмуць.

Бацьку хоць шапку скідай, а пачку шлі.

лы і асяроддзя. Арганізоўваць сустрэчы школьнай дзетвары з людзьмі, якія наведвалі сваякоў і знаёмых у СССР, каб перадавалі яны найбольш свежыя і непасрэдныя звесткі аб жыцці людзей краіны Саветаў.

Іншым заданнем, якое ставіць гурток, з'яўляецца павелічэнне актыўнасці маладзёжных арганізацый. Перад настаўнікамі-выпускнікамі, якія працуюць у беларускіх асяроддзях, пастаўлена заданне збору фальклорных песень, па-гаворак і г. д.

І ўрэшце справа, якая яшчэ больш з'яднае выпускнікоў, дасць матэрыял для навуковых апрацовак, — падрыхтоўка абшырнай манаграфіі школы. Праўленне гуртка лічыць, што кожны выпускнік павінен прымусіць сябе да напісання даўжэйшага ці карацейшага ўспаміну аб пабыўцы ў ліцэі або рэфлексій, звязаных з гэтым перыядам. Пішучыя могуць вяртацца, напрыклад, да спраў вучобы ў ліцэі або выхаваўчай атмасферы ў школе, да экскурсій, школьных і пазашкольных урачыстацей, спорту, інтэрнацкага жыцця, постаці настаўнікаў, дырэктараў, працаўнікоў школы, не прамінаючы такіх спраў, як фіглярствы, жарты, сваркі і т. п.

За найлепшыя працы для іх аўтараў прадбачаны высокія грашовыя ўзнагароды. Спамянутыя апрацоўкі павінны быць прысланы на адрас: Zarząd Koła Absolwentów Liceum Pedagogicznego przy Pow. Zarządzie ZNP w Bielsku Podlaskim, ul. 1 Maja 6.

І яшчэ хацелася б дакінуць некалькі слоў. Педагагічны ліцэй у Бельску — гэта адзіная школа, дзе афіцыяльна на працягу 20 год яго існавання вучыліся, працавалі, гулялі палякі і беларусы. Тут нараджалася новае сужыццё двух нацый. І трэба сказаць, што сужыццё гэтае было вельмі прыгожае, натуральнае. Аднак як гэтыя працэсы адбываліся, як адбывалася інтэграцыя гэтай моладзі, не многа можна сказаць, бо ніхто гэтым не цікавіўся і не вёў доследаў. Таму ініцыятыву гуртка выпускнікоў педліцэя як мага найбольш трэба падтрымаць.

*А. Лабановіч*

# ГУРТОК СВЯТКУЕ ЮБІЛЕЙ БГКТ

Гурток Беларускага таварыства ў Трасцянцы супольна з гуртком вясковых гаспадынь падрыхтавалі ўрачысты вечар, прысвечаны 15-ай гадавіне БГКТ. Была інфармацыя аб дзейнасці БГКТ і дасягненнях, былі песні і інсцэнізацыі, быў аркестр і танцы.

На ўрачыстасць гэтую сабралася ў клубе-кавярні многа людзей. Асабліва падабалася прысутным інсцэнізацыя песні «Баба Еўка, дзед Тамаш» у выкананні Олі Нікалаюк і Кацярыны Грыгарук, а таксама народная песня «Кіну кудэль на паліцу», якую спявалі Люба Садоўская і Анна Стахіюк.

Танцы «Каробачка», «Лысы» і «Страданне» былі таксама ўзнагароджаны бурнымі воплескамі. Пасля мастацкай часткі да позніх гадзін ночы працягвалася забава.

**Т. Г., Трасцянка**

колечы палітычнай думкі, без якога-колечы імкнення, без якога-колечы плана і перспектывы». Паэт быў у нязгодзе з праўдай, калі далей выказваў аб Нестару наступную думку: «Амаль ніколі не ацэньвае ўчынкаў валадароў, рэдка іх хваліць, ніколі не ганіць». Няма сумненняў, што такая ацэнка застаецца ў поўнай нязгоднасці з фактамі. Ацэнка гэтая несправядлівая і належыць яе аднесці да найменш трапных ва ўсёй польскай навуковай літаратуры, прысвечанай аўтару «Повесці».

Канчаючы інфармацыю аб польскіх даследаваннях старарускай літаратуры, якія паявіліся да XX ст., варта дадаць, што сярод польскіх даследчыкаў бачым яшчэ выдатнага польскага пісьменніка Крашэўскага і вядомага гісторыка Адама Кіркора. Апошні быў староннікам свабоднага братэрскага сужыцця і развіцця ўсіх славянскіх народаў. У кніжцы „O literaturze pobratymczych narodów słowiańskich" (1874) Кіркор назваў Нестара «патрыярхам славянскіх летапісцаў». Такім чынам, гэты дэмакратычна настроены вучоны аддаваў належную чэсць вялікаму подзвігу аўтара «Повесці врэменных лет».





*Вучаніцы з лучанскай школы пякуць торт.*

Вучні са школы ў Луцэ, Гайнаўскага павета, любяць практычныя заняткі. А больш за ўсіх дзяўчаты. Настаўніца Яўгенія Бароўская вучыць іх, як зварыць суп або спячы торт. Апрача таго, дзяўчаты пякуць булачкі і піражнае, робяць вафлі і г. д. Настаўніца задаволена сваімі падапечнымі, якія ўжо цяпер самі патрапяць зварыць абед або прыняць гасцей.

*Тэкст і фота (яц)*

# ПЕРАДАВЫ ГАСПАДАР З ТРАСЦЯНКІ

Ян Грыгарук з Трасцянкі, Гайнаўскага павета, не адразу рашыў працаваць на гаспадарцы. Спачатку на працягу пяці гадоў кіраваў трасцянскай цагельняй. Потым пацягнула яго на гаспадарку. Зараз селянін Ян Грыгарук гаспадарыць на 10 гектарах зямельных угоддзяў. Ужо тры гады вядзе ён доследныя палеткі з рознымі сартамі бульбы, а таксама доследы над прымяненнем мінеральных угнаенняў на сенажаці.

Доследы паказалі, што на трасцянскіх глебах найлепш удаюцца такія сарты бульбы, як «уран» і «вышаборская». Бульба «уран» дала ўраджай 400 цэнтнераў з 1 гектара. Больш смачная аднак драбнейшая бульба «вышаборская». Ян Грыгарук прадаў дзяржаве 9 тон бульбы, адну тону ўзяў ІУНГ (Інстытут управы наважэння і глебазнаўства), які прызначыў яе на саджанцы. Зараз Грыгарук можа прадаць яшчэ больш трох тон бульбы. А варта дадаць, што ён сам гадуе шмат свіней.



Высяваючы адпаведна высокія колькасці мінеральных угнаенняў, Ян Грыгарук атрымлівае 100 цэнтнераў сена з 1 га. Паколькі значна павялічылася кармавая база, селянін гадуе сем кароў. Каровы даюць па 300 літраў малака ў месяц кожная. Прыведзеныя факты паказваюць даволі пераканаўча, якім шляхам можна дабіцца высокіх ураджаяў, а таксама як пашырыць жывёгаладоўлю.

Доследныя палеткі, на якіх прымяняе Ян Грыгарук усе аграхімічныя і агратэхнічныя прыёмы, а ў выніку высокія ўраджаі сельскагаспадарчых культур з'яўляюцца яркім доказам, да якіх вынікаў можна дайсці, гаспадарачы на зямельных угоддзях нават V і IV класаў. І, несумненна, таму многа гаспадароў, а перш за ўсё маладых гаспадароў, пільна сочыць за дасягненнямі Яна Грыгарука на доследных палетках, а таксама ставіць яго ў прыклад добрага гаспадара. У гэтым годзе Грыгарук задумаў дадаткова закласці ў сябе на некалькіх арах доследныя палеткі з ячменем, робячы ў ім падсеўкі з травы «купкуўкі».

Гэты прыкладны гаспадар значна аблягчае сабе працу пры дапамозе сельскагаспадарчых машын, з якіх некаторыя пазычае ў мясцовым сельгасгуртку. Карыстаецца ён электрарухавіком, пры дапамозе якога рэжа сечку або дровы. Да апрацоўкі ільну выкарыстоўвае так званыя трапакі. Пры дапамозе «апеляча» поле агародніну, кармавыя буракі або бульбу.

Яшчэ не так даўно Ян Грыгарук пабудаваў у сябе новую клуню, летнюю кухню і паветку на мінеральныя ўгнаенні. Апрача таго, завёў у сябе невялікі сад. У вольны час цікавіцца ён сельскагаспадарчай кніжкай, чытае прэсу, як «Ніву», «Газету Беластоцкую», «Аграхімію», «Gospodarski chów zwierząt» і г. д. — Шмат гаспадароў пайшло ўжо ў мае сляды, — гаворыць Я. Грыгарук. — Вось хоць бы прыгадаю некаторых з іх: Антон Бацэвіч (ужо даследчык ІУНГ), Міхась Максімчук с. Міхася, Янка Васілюк с. Рыгора, Мікалай Семянюк с. Дзмітра з Трасцянкі або Міхась Лук'янюк з вёскі Белкі, які вядзе даследчыя палеткі з жытам.

*Тэкст і фота: Янка Цялушэцкі*

*Адрэж па лініі, назначанай пункцірам, зрабі дзіркі ў месцы, вызначаным кружкамі і нанізвы старонкі на дроцік або шнурочак.*

**БІБЛІЯТЭЧКА "НІВЫ" ○ ЯНКА МАУР ○ ПАЛЕСКІЯ РАБІНЗОНЫ**

101

Бандыты падышлі да вогнішча і спыніліся.

— Ці не на паляванне пайшлі? — пачуліся галасы. — Навошта? Вунь якую штуку забілі і яшчэ павалакліся.

Грымнуў стрэл... Чалавек з рэвальверам войкнуў і ўхапіўся левай рукою за правую; рэвальвер упаў на траву. Трое іншых не паспелі разабрацца, у чым справа, як убачылі, што да іх падбягаюць трое ўзброеных людзей.

— Рукі ўгору!

Бандыты, азіраючыся навакол, відаць, у чаканні сваіх, трошкі паднялі рукі. Нападаючыя мігам апынуліся каля іх. Рэвальвер бандыта ляжаў каля ног Саўчука.

Тады адбыўся нечаканы паварот.

Адзін з бандытаў, убачыўшы, што з трох нападаючых двое зусім яшчэ маладыя хлопцы, кінуўся пад ногі Саўчуку, зваліў яго і ўхапіўся за рэвальвер, што ляжаў на зямлі. Двое яго таварышаў апусцілі рукі і нарыхтаваліся кінуцца ў бойку. У гэты самы момант пачуліся тры стрэлы...

Два разы стрэліў Мірон у бандыта, што схапіў рэвальвер. Той выпусціў зброю. Віктар, не цэлячыся, стрэліў у «сваіх», бандытаў, і гэта затрымала іх на тую секунду, якая патрэбна была Саўчуку, каб падняцца на ногі. А тады ўжо бандыты «шчыра» паднялі рукі.

— Малайцы, хлопцы! — коратка сказаў Саўчук, і гэтыя словы з вуснаў камандзіра былі для іх самай лепшай пахвалой.

Двум здаровым бандытам было загадана перавязаць сваіх раненых таварышаў. У аднаго з іх была перабіта правая рука, другому Мірон прастрэліў плячо і зачапіў бок. На бінты для іх прыйшлося рваць сарочкі.

— Вы іх тут пільнуйце, — ціха сказаў Саўчук, — а я прывяду тых двух.

Як толькі Саўчук адышоўся, хлопцы адразу адчулі трывожную напружанасць. Яны пачалі заўважаць, што бандыты, робячы перавязку, больш сачылі за хлопцамі, чым за сваёй работай. Яны паварочваліся і станавіліся не так, каб зручна было перавязаць, а так, каб зручна было кінуцца на вартавых.

Памятаючы параду Саўчука, хлопцы трымаліся на такой адлегласці, каб адным махам да іх нельга было даскочыць, а рэвальверы не апускалі ні на адну хвіліну. Апрача таго, трымаліся блізка адзін ля аднаго і ўвесь час мянялі свае пазіцыі, каб было зручна ім, а не бандытам. Ніводнага слова не сказалі хлопцы адзін аднаму, а дзейнічалі так дружна і ўзгоднена, нібы ўсё ў іх было дагаворана. Значыцца, абодва добра навучыліся разумець становішча.

Хлопцы ўздыхнулі вальней, калі падышоў Саўчук з двума ранейшымі палоннымі. Раты іх былі ўжо развязаны.

— І вы папаліся? — з папрокам сказаў адзін з іх сваім новым таварышам.

— Гэтак жа, як і вы! — злосна буркнуў нехта ў адказ.

Саўчук падышоў да іх і сказаў:

103

Затым Саўчук дапамог хлопцам назапасіць галля на ноч і пасля таго рушыў у дарогу.

XXIV

**Апошняя ноч на востраве. — «Кармленне звяроў». — Хітрыкі палоннікаў. — Смалены бандыт. — Зварот дадому.**

Хлопцы зноў засталіся ў лесе, але цяпер перад імі сядзела пяць чалавек ды шосты ляжаў побач. І людзі гэтыя для іх былі больш небяспечныя, чым усе тутэйшыя звяры.

Калі бандыты ўбачылі, што старэйшы пайшоў, яны ажывіліся і пачалі перагаворвацца. Відаць, яны сцямілі, што той пайшоў па дапамогу і вернецца няхутка, а таму ў іх з'явілася надзея як-небудзь абдурыць гэтых хлопцаў. Калі хлопцы падышлі бліжэй да іх, палонныя змоўклі. Толькі скоса пазіралі на сваіх вартаўнікоў. А потым «стары знаёмы» бандыт спытаў:

— Скажыце, чаму вы не адгукаліся, калі мы тыдні два назад шукалі вас і нават стралялі? Ці вы не чулі?

— Чулі, ды не хацелі сустракацца з вамі, — адказалі хлопцы.

— Чаму? Мы ж маглі вам паказаць дарогу.

— Ведаем, якую дарогу вы хацелі нам паказаць.

— Адкуль жа вы маглі ведаць?

— Бабры сказалі! — засмяяўся Віктар.

— А! Дык вы падслухалі?

— Чуткі такія па лесе пайшлі.

Нарэшце хлопцы адчулі, што вельмі хочуць есці. У трафейнай торбе прадуктаў было нямнога, асабліва хлеба: раніцою хлопцы і Саўчук добра пад'елі, не шкадуючы бандыцкіх запасаў. Вочы палонных прагна накіраваліся на ежу.

— Як тут дзяліць? — казаў Мірон, круцячы ў руках хлеб. — А есці на іхніх вачах не магу. І схавацца ад іх няма як.

Тыя два, што былі ўзяты раніцой, нарэшце не вытрымалі і папрасілі:

— Дайце хоць хлеба кавалачак, мы ўвесь дзень нічога не елі.

— Хлеба? — усклікнуў Віктар. — Мы ж яго цэлы месяц не елі. Лепш мы засмажым вам цудоўнага зубровага мяса.

Сваім вострым кінжалом яны лёгка нарэзалі тонкіх лустаў мяса і паклалі ў агонь, а самі са спакойным сумленнем узяліся за хлеб і сала. Палонныя цярпліва чакалі сваёй чаргі, аб нечым перашэптваліся. Пакуль хлопцы павячэралі, мяса сасмажылася. Можна было вячэраць і палонным, але як?...

— Вы па чарзе. Развяжыце рукі аднаму, потым другому, — прапанаваў адзін з бандытаў, відаць, абмеркаваны ўжо імі план.

